Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару **10 гр.**

# РОДНЫ КРАЙ

**Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.**

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4. | Прыймо інтэрэсантаў: у Сакрэтар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12—14 г. | Цана падпіскі з дастаўкай поштай: | За год 2 зл. 50 гр.; за паўгоду—1 зл. 35 гр.; за 3 месяцы — 75 грош; за 1 месяц — 30 грош. |
|---|---|---|---|

**№ 17 (69)** | **Вільня, 6-га ліпня 1935 г.** | **Год 3-ці.**

## Няпрошаныя апякуны.

Што раз часьцей у польскай прэсе рознай ахвярбоўкі і асортымэнту пачалі зьяўляцца артыкулы, датычачыя той ці іншай галіны беларускага жыцьця. Сярод аўтараў гэных артыкулаў ёсьць і палякі і беларусы, а нават і „białorusini". Кожны з іх лічыць сябе большым ці меншым „спэцам" беларускае справы, а некатарыя спэцыяльна займаюцца «беларускай літэратурай».

Раней аўтары гэтых артыкулаў, перапоўненыя ненавісьцяй да ўсяго беларускага з большаю ці меншаю дозаю непрызваітасьці, пераважна напаўнялі шпальты такіх газэтаў, як: "Dziennik Wileński", „Gazeta Warszawska" i „Słowo".

У сучасны мамэнт пачынаюць спатыкацца падобныя па зьместу артыкулы і ў іншых польскіх газэтах. Так, прыкладам, у № 26 „Wiadomości Literackich" з дня 30 чэрвеня 1935 г. надрукованы бяз ніякай засьцярогі з боку рэдакцыі так званы: «List z Wilna— **Białoruskie „ugodki"** (пакідаем транскрыпцыю „Wiadomości literackich") pana Jerzego Wyszomirskiego. Зразумела, што трудна вясьці полеміку з някомпэтэнтным чалавекам, але з увагі на асобу пана Вышомірскага мы змушаны адказаць яму.

Для пана Вышомірскага справа беларуская зусім ясная, бо-ж ён ад 10-цёх гадоў, бачыце, жыве ў Вільні ды бязупынна «абціраецца» аб беларусаў.

Для чалавека, шануючага сябе, ужо адно такое прызнаньне не пазволіла-б доўга ды «усебакова» расьпісываць аб тым, аб чым ён ня мае «zielonego pojęcia», як сказаў-бы той самы пан Вышомірскі, бо-ж абціраецца толькі каля нейкае справы гэта далёка яшчэ ня значыць пазнаць яе; абцёрся і пайшоў — ані сам сьляду не пакінуў, ані да яго нічога ня прыстала. Дык таму п. Вышомірскі і мае, як кажуць палякі, «bezczelnośc» пісаць з такім аплёмбам, што для тых, хто абсолютна няор'ентуецца ў беларускай справе ды можа ў жыцьці сваім ніколі не бачыў беларусаў, грамадзка малаграматна—бяссэнсоўная пісаніна можа выдацца праўдзівай.

На гэта відаць і разьлічваў п. Вышомірскі, пасылаючы свой бясславны ліст з Вільні ў „Wiadomości Literackie". Але такое выкарыстываньне наіўнасьці чытача ўважаем абсолютна недапушчальным.

Каб пан Вышомірскі не аціраўся толькі аб беларусаў (і то відаць яшчэ „podlejszego gatunku"), то ведаў-бы, што пабеларуску будуць „uhodki", а не „ugodki", запамятаў-бы хоць першы радок з беларускага гымну „Ад веку мы спалі", ды ня ўпрыгожваў-бы яго так вульгарнай формай, каторая яму спадабалася, ды якая, як яму здаецца, зусім адпавядае сапраўднасьці. Пан Вышомірскі відаць ня ведае таго, што ёсьць пароды і на польскі гымн. Аднак мы беларусы зусім імі не захопліваемся і нідзе іх ня друкуем. Як гэта ня дзіўна, але аказваецца, што „цёмныя лапцюжнікі" беларусы больш узгадованыя за „ясьне вельможных" паноў Вышомірскіх,

Аб беларускай літэратуры п. Вышомірскі выдае суд на падставе вершаў такіх „поэтаў", як Станіслаў Станкевіч ды Берняковіч і такіх «пісьменьнікаў», як „białorusin" Шантэр. Ня дзівімся, што дагэтуль ён нічога, а можа нават яшчэ меней як нічога, ня ведае аб беларускай літэратуры. Дзівімся толькі з тэй бясцэрамоннасьці пана Вышомірскага, з якою ён забіраецца да разважаньня над беларускай справай.

Дарма думае пан Вышомірскі, што беларуская мова доўга яшчэ будзе чакаць свайго «Пушкіна» ці «Міцкевіча». Беларуская літэратура ўжо даўно мае сваіх волатаў мастацкага слова, мала ўступаючых Пушкіну і Міцкевічу, што, сьцьверджана ня толькі беларусамі, але і заходня-эўрапэйскімі вучонымі — знаўцамі беларускае літэратуры.

Жывучы 10 гадоў у Вільні і нават не «абціраючыся» аб беларусаў, а проста цікавячыся беларускай мовай і літэратурай мог-бы прачытаць пан Вышомірскі хоць выбраныя творы Янкі Купалы і Якуба Коласа (Колас — гэта псэўдонім К. Міцкевіча; толькі не зблытайце пане Вышомірскі з А. Міцкевічам—польскім поэтам, бо відаць у расейскай школе Вашую галаву так напхалі Пушкінам, што сумляваецца ці Вы здолелі пазнаёміцца за 10 гадоў з сваім поэтам А. Міцкевічам).

Беларуская мова будзе слушна выдавацца п. Выш. вельмі няпрыемнай, „храпаватай", „цьвёрдай" і „немілагучнай", калі ён будзе знаёміцца з ёю па творах успомненых намі „поэтаў" Берняковіча і Станкевіча, (відаць кнігара, бо ёсьць магістар Ст. Станкевіч, але той здаецца падобным вершаплётцтвам не займаецца — Рэд.) ды Шантэра.

Але калі п. Вышомірскаму і мова „Домастроя" не падабаецца, дык тут ужо справа горшая. Гэта сьведчыць аб тым, што расейская школа не здолела навучыць п. Вышомірскага адрозьніваць прыгожае, мастацкае пісьменства ад вульгарных бруковых памфлетаў.

Акром таго, ува ўсім беларускім пытаньні не падабаецца пану Вышомірскаму тое, што беларусы пераважна сяляне, а не „ясьне вельможна шляхта". Ну, на гэта нават п.п. Вышомірскія рады не знойдуць, а мы дык зусім ня сумуем, што сярод нас — беларусаў амаль што няма „вельможных".

Даволі нам уеліся ў косьці і чужыя „вельможныя", каб яшчэ сумаваць па сваіх!

Не падабаецца такжа п. Вышомірскаму і тое, што сваю бацькаўшчыну „Беларусь" мы называем „бацькаўшчынай", а не „ojczyzną" ці „отечеством".

Ён нават уздрыгнуўся, як пачуў гэтае слова. Уздрыгайцеся на здароўе, мы ўздрыгаемся часта на нешта іншае „Są gusty i guściki", пане Вышомірскі,—нічога не парадзіш!

На заканчэньне гэнае прыкрае і няпрыемнае полемікі мусім дадаць, што мы беларусы ўважалі і ўважаем сябе **на сваіх беларускіх землях** толькі і выключна **тутэйшымі**, а ня **прыблудамі**.

І ня толькі беларусы ёсьць тутэйшымі, але і палякі... але гэтага паны Вышомірскія ніколі не зразумеюць.

Калі гэты адказ наш п. Вышомірскага нездаволіць, то радзім яму зьвярнуцца да нашага поэта Я. Купалы, у творах якога вельмі прыгожа вершаванаю моваю знойдзе ён адказ для ўсіх няпрошаных самазваных апякуноў.

## Як Пілсудскі быў зволынены з Магдэбургу

Француская часопісь „Рэвю дэ Парі" апублікавала цікавыя ўспаміны графа Кэсьлера, які, будучы афіцэрам, меў загад нямецкага ўраду выпусьціць з Магдэбурскае крэпасьці на волю нябожчыка Маршалка Пілсудскага ў пачатку нямецкае рэвалюцыі.

Граф Кэсьлер звольніў Пілсудскага і яго начальніка штабу (цяпер генэрала) Соснкоўскага, перавёз іх абодвух на самаходзе з ахопленага ўжо рэвалюцыяй Магдэбургу ў Бэрлін, адкуль яны экстрэным цягнікам скірованы былі ў Польшчу.

— „Мы,—піша граф Кэсьлер, —былі ўжо на краі катастрофы. Я быў камандзірованы ў Магдэбург, дзе павінен быў чакаць інструкцыяў свайго ўраду. Уночы з 7 на 8 лістапада (1918 г.) мне было загадана звольніць Пілсудскага з вастрогу, не вымагаючы ад яго гэтым разам ніякіх пісаных абавязаньняў, і якнайхутчэй перавязьці яго ў Бэрлін.

Звальненьне Пілсудскага павінна было адбыцца на другі дзень а 10 гадзіне раніцай, але за паўгадзіны да гэтага да мяне зьявіўся афіцэр з паведамленьнем, што чугуначная камунікацыя з Бэрлінам перарвана. Дзеля гэтага я рашыў звольніць Пілсудскага зараз-жа і скіраваць яго ў Бэрлін на самаходзе. Да гэтага пабуджала мяне і новая тэлеграма, атрыманая з Бэрліну, з вымаганьнем магчыма найхутчэйшага звальненьня Пілсудскага.

Тымчасам у Магдэбургу загарэлася рэвалюцыя. Па вуліцах цундалі густыя натаўпы салдатаў, матросаў і цывільных людзей. У горадзе віселі чырвоныя штандары, маніфэстанты зьдзіралі з афіцароў пагоны, адбіралі шашкі ды рэвальвэры і перарэзвалі электрычныя драты. Арсэнал і казармы некаторых палкоў былі пазайманы рэвалюцыянэрамі"...

Перад Кэсьлерам паўстала пытаньне: што рабіць? Ці зараз-жа звольніць Пілсудскага, рызыкуючы быць арыштованым разам з ім, а мо' нават і разарваным натаўпам, — ці пачакаць дзён 2-3, пакуль неспакой прыціхне? Ад рашэньня гэтае задачы, як аказалася пасьля, залежаў далейшы лёс Польшчы і Нямеччыны.

— „Калі-б, — разважае граф Кэсьлер, — Пілсудскі астаўся ў Магдэбургу лішні дзень, дык бальшавізм мог-бы апанаваць Польшчу, а пасьля і Нямеччыну"...

Граф Кэсьлер рашыў звольніць Пілсудскага зараз-жа. Нарыхтаваўшы самаход і пераапрануўшыся ў цывільную вопратку, Кэсьлер з кавалерыйскім ротмістрам Гюльпэнам паехаў у крэпасьць. Натаўп, сабраны каля брамы крэпасьці, не перашкаджаў, даведаўшыся што маюць звольніць нейкіх арыштованых. Пілсудскі, як і Соснкоўскі, яшчэ нічога ня ведаў і, як заўсёды, абодва яны адбывалі ранешні спацыр у садочку крэпасьці.

Убачыўшы Кэсьлера ў цывільнай адзежы, Пілсудскі зьдзівіўся Вестку аб звальненьні і ён і Соснкоўскі прынялі з пачуцьцём вялікае годнасьці. Кэсьлер паведаміў абодвух пра падзеі, што адбываліся ў горадзе і даў ім на зборы 10 мінут часу, бо ў кожную мінуту крэпасьць мог захапіць натаўп. Міма варты Кэсьлер са звольненымі ім арыштованымі скіраваўся праз мосьцік на Эльбе да чакаўшага іх самаходу. Пусьціліся ў дарогу кружма, палеткамі, каб ня сустрэцца з рэвалюцыйнымі натаўпамі. Па дарозе затрымаў падарожных аддзел ляндштурму. Але

жоў" заявіў, што „генэральная чыстка" адбудзецца ў бліжэйшым будучым. Зразумела, што падобныя словы гаворацца з мэтаю не супакоіць сяброў арганізацыі, а, наадварот, трымаць іх у напружаным становішчы. Зусім магчыма, што ў хуткай будучыне палкоўнік дэ ля Рок рыскне сыграць ва-банк,—ці то дзеля таго, што ўрад стварыў абставіны, спрыяючыя для гэтага, або таму, што рост антыфашыстоўскага руху пужае яго і змушае прыпушчаць, што ў хуткім часе дарога да выступленьня будзе зачыненай.

Радыкальная „Рэпюблік" устрывожана дзейнасьцю ўсякіх лігаў—„фашыстоўскіх" і „нефашыстоўскіх".

Два лагеры француаў, па прычыне адсутнасьці павадыроў, каторыя аказаліся-б на вышыні заданьня, ніяк ня могуць пагадзіць сваіх праграмаў, па сутнасьці, так блізкіх. Ня ведаючы, як аб'яднацца для эканамічнага будаўніцтва, яны ў адзін прыгожы дзень пачнуць між сабою свалку.

Мы ў сучасны момант, — піша газэта, — знаходзімся на валаску ад падобнага спатканьня.

У цьверджаньні сваім „Рэпюблік", відаць, апіраецца на словах павадыроў фашыстоўскага і крайня-левага фронтаў.

Жан Рэно павадыр фашыстаў адкрыта піша ў „Кур'ер Дэ Жэнэв":

„Арганізацыя „Солідарытэ Франсэс" мае 500.000 сяброў і 6 лютага ішла ў атаку проціў парлямэнтарызму. *Дзень гэты быў пачаткам нацыянальнай рэвалюцыі, каторую ўжо ніхто не затрымае, бо патрыёты ўжо навучыліся выхадзіць на вуліцу.*

Мы імкнемся да ўлады ўсімі сіламі і здабудзем яе. *Мір або вайна, парадак або беспарадак, але трэба пакончыць з 200 парлямэнтарыяў, каторыя здраджалі Францыю.*

Калі трэба будзе, мы сілаю зачынем „Юманітэ", „Чырвоны Фронт" і выкінем з Францыі масонаў...

Ні водзін з павадыроў „патрыётычнай лігі" ня верыць, каб у Францыі абышлося бяз хатняй вайны. *Мы будзем змагацца. Выйдзем на вуліцу з лёзунгам: Францыя для французаў. Досьледы даказалі недарэчнасьць барацьбы легальнымі сродкамі.* Калі Францыю ўратуе кароль, мы будзем манархістамі. У кожным прыпадку, мы прыгатаваныя да барацьбы".

А вось, што піша лідэр соцыялістаў Леон Блюм у „Попюлер":

„Я да гэтага часу думаў, што ўдзел соцыялістаў у ўрадзе *павінен мець на мэце зьнішчэньне капіталізму.* Цяпер я іначай думаю. З увагі на фашыстоўскую пагрозу, пролетарыят павінен захапіць уладу, якая для яго будзе сама абаронай.

Як паказала дасьведчаньне Аўстрыі, Нямеччыны і Італіі, пазбаўленьне дэмократыі ўлады прывяло да зьнішчэньня дэмократыі. *Абарона проціў дыктатуры — для пролетарыята—пытаньне жыцьця і сьмерці.*

Што-ж на ўсё гэта ўрад?

Прэм'ер Ляваль даў прэсе наступнае выясьненьне:

„Я прыняўся з колегамі за працу з мэтаю ўратаваньня краю. Я хачу, каб мне пазволілі працаваць спакойна і ўраўнаважана. Усякія чуткі аб маючых выйсьці дэкрэтах перадчасныя. Урад мае сродкі, каб спыніць розныя дэструкцыйныя кампаніі.

У той момант, калі мы будзем апрацоўваць меры для падтрыманьня нашай валюты, усе грамадзяне павінны захаваць дысцыпліну".

## Кароткія навіны.

Міністар замежных спраў Бэк на запросіны нямецкага ўраду выехаў у Бэрлін, дзе будзе прыняты Гітлерам, з якім абсудзіць стварыўшаеся Міжнароднае палажэньне.

— Савецкія ўлады завялі рэгістрацыю польскага насельніцтва ў Беларусі і на Украіне. Хто ня зьявіцца на рэгістрацыю, будзе лічыцца белагвардзейцам і будзе сурова пакараны.

— Усе савецкія грамадзяне, пражываючыя ў Манджурыі, атрымалі загад з Масквы выехаць з Манджурыі не пазьней 25 жніўня.

— Як пішуць газэты, у Маскве арыштавана некалькі выдатных дзеячоў III-га Інтэрнацыяналу. На месца каменданта крэмлёўскай варты Пецерса (каторы, быццам, расстрэлены) назначаны нейкі Такалун. Заместа ГПУ варту пры Крэмлі пераняла Чырвоная Армія.

— Нямецкія вучоныя—тэхнікі знайшлі спосаб перадачы па радыю на кароткіх хвалях, даўжынёю каля 1-го мэтру, тады як дасюль радыёвыя хвалі маюць даўжыню некалькіх мэтраў. Па думцы вучоных кароткія радыёвыя хвалі дадуць магчымасьць лёгкіх зносінаў паміж радыястанцыямі.

— У Англіі зроблена спроба кіраваньня аэраплянам з помачай радыястанцыі, бяз лётчыка. Спроба ўдалася і самалёт лётаў па куль што на невялікім абшары. Гэта можа мець вялікае значэньне ў вайсковай тэхніцы.

# З выдавецкае нівы.

**„Студэнцкая Думка",** *часапіс беларускага студэнцтва, Вільня—Чэрвень 1935 г., № 1 (15).*

У перадавым артыкуле рэдакцыйная калегія „Студ. Думкі" зазначае, што: „Апошні 14 нумар „Студэнцкай Думкі" вышаў увосень 1930 году". Нашае хваравіта вілeнскае грамадзкае жыцьцё ў кароткі пэрыяд — ад гэтае даты да выхаду разгляданага тут 15-га нумару студэнскае часопісі—моцна адбілася і на жыцьці нашай асьвечанай моладзі; цяпер яна заяўляе, што яе адноўлены часапіс будзе служыць далейшай крысталізацыі сьветагляду, які мусіць быць адбіцьцём соцыяльна-нацыянальных дамаганьняў і патрэб нашай вескі".

— Крытычны мамэнт вострых унутраных конфліктаў у Студэнскім Саюзе, як быццам мінуў, студэнства сшыхавала ізноў свае сільна зьменшаныя рады ды ізноў друкам падае да шырокага публічнага ведама свае імкненьні, сваё credo ды тыя ці іншыя літэратурныя і навуковыя плады свае працы,—лезе ў галаву думка, калі чытаеш першы (бяз ніякага загалоўку) артыкул „Студ. Думкі".

Есьць слабыя, але ёсьць і бязумоўна сільныя месцы ў толькі што выпушчанай „Студ. Думцы".

У старанліва апрацованым артыкуле „Zachodniaja Bielaruś, jak abšar faŭnistyčnych dośledaŭ" Мікалай Караленка закрануў вельмі цікавае пытаньне аб малой зацікаўленасьці ў нас прырадаведнымі навукамі і аб далёка няпоўнай дасьледжанасьці жыцьця нашае фауны. Аўтар прыводзіць пад тэкстам вельмі шмат, як відаць, прастудыяванае ім літэратуры аб гэтым прадмеце. Таксама выразная нятузіновая здольнасьць апанаваць даволі шырокую тэму выступае ў аўтаркі арт. „Жанчына ў беларускай літэратуры" — М. Мілючанкі. Артыкул гэты зьмешчаны ня ўвесь, рэдакцыя зазначае, што „канец будзе". Але і з апісаных аўтаркай нашых літэратурных жаночых тыпаў відаць умеласьць яе дакладна схарактарызаваць іх і зрабіць зусім жывымі, даступнымі разуменьню кожнага беларускага чытача.

У публіцыстычным артыкуле (невядомага аўтара) „Што рабіць?" шмат актывізму, парывістасьці, імкненьня да прымату студэнства ў нашым руху, гарачага патрыятызму, але столькі-ж расплыўчатасьці, ідэолёгічнай туманнасьці, пастукваньня фразай ды вельмі мала конкрэтнага адказу на востра пастаўленае пытаньне.

Чыста - літэратурны багаж „Студ. Думкі" (вершыкі і проза) змушае жадаць шмат большага і лепшага. Зразумелым зьяўляецца адвыканьне нашага студэнства ад свае мовы, дзякуючы таму, што ня маем свае роднае школы, зразумелыя зусім чужыя ўплывы. Але ўсё-ж такі вялікі „грэх" беларускаму студэнству ня ведаць, што „цень" у нас мужчынскага роду (...„На жыцьцё наша кінуўшы *цёмную цень*" — з вершу „Не бядуй!" N. N.). Грэх таксама ўжываць гэткі маскалізм, як *закалі* (не ад слова *закалоць*, а ад маскоўскага *закалённый, закаліть*, панашаму *загартаваць*—у тым самым вершы). А расейскае *акутаў* („окутал") панашаму — *спавіў, ахінуў*. Пабеларуску будзе: *кашляе крывёю*, а ня *кроўю* ды яшчэ ў гэткай перадачы, як—*кроў'ю*.

Паўторым гэта з сумам: гэткія „струпы" ў мове нашых студэнскіх пісьменьнікаў крыху апраўдваюцца простым, пытаньнем: дзе і калі беднаму беларускаму студэнту навучыцца можна віртуознасьці свае мовы?

Расказік Яз. Бурака „Яе вочы" найлепш можа сьведчыць, нажаль, толькі аб адным: аб поўнай слабасьці літэратурнага боку „Студ. Думкі", слабасьці стылістычнай, фабулістычнай, а галоўнае — лексычнай (*сапеўшага, крэўных*, чакала *на* свайго каралевіча сноў, *ухажораў, разсудак, закраўшагася, штыўны, глупа, проблыскаў* ласкі і інш.).

*К. М.*

## Што можна пасылаць у СССР.

Абвешчаны новы сьпісак прадметаў, каторыя можна пасылаць у СССР без асобага дазволу. Можна пасылаць пасылкі да 10 кілё, у іх могуць быць жывецкія прыпасы, кансэрвы, маргарын, сыр, мёд, какао, кофе, макароны, соль; можна пасылаць таксама: 1 гарнітур адзежы, пару боцікаў (ботаў), дзьве шапкі, 6 камплектаў бельля, лякарства да 1 кілё і інш. Правіла гэтыя важныя на 1 год.

**Навучайце сваіх дзяцей чытаць і пісаць пабеларуску!**

сабе прыемнасьць чаканьня пацалунку. У яе голасе было нешта, што прымусіла мяне адразу-ж пакінуць свой замер і вінавата пацалаваць яе пальцы.

Твар яе скрывіў духовы боль. Стуліўшы бровы, намагалася перамагчы спазмы ў горле. Але дзьве здрадлівыя сьлязіны такі выкаціліся з-пад брывіцаў.

Цёпла прытуляю яе.

— Оля, родная, што цябе мучыць? Падзяліся гэтым са мною... Табе будзе лягчэй... Можа я табе нешта параджу...

Оля горка ўсьміхнулася і даверліва прысунула галаву да маіх грудзей.

— Парадзіць ты мне нічога ня можаш, але я табе скажу, чаму мне цяжка. Ні з кім я яшчэ не дзялілася гэтым... Але ты, лепш, як хто іншы зразумееш мяне, бо... мы з табою трошкі «таварышы па няшчасьцю»... Я ведаю, што ты ў нашым арганізацыйным судзе першы падпісаў сьмяротны прыгавар для дзяўчыны, якую любіў можа больш, як сваё жыцьцё. Яна, разгубіўшыся ад гора, здрадзіла нашу справу, думаючы, што выратуе гэтым цябе ад сьмерці ў Чэка. Табе было цяжка, балюча, але памяць аб ёй назаўсёды застанецца ў тваёй душы сьвятою. А ў мяне... А я...

Голас яе парацяўся і, напружыўшыся ўсім целам, яна перамагла плач.

Заспакоіўшыся, узяла маю руку і прыціснула яе да свайго твару.

— Вы ўсе думаеце, што я — дзяўчына... Чатыры гады таму, семнаццацьгадоваю гімназісткаю, я закахалася ў бліскучым кавалерыйскім афіцэры і выйшла за яго. Ен быў гэткі элеганцкі, а меў вельмі багатых бацькоў у Пецербургу... Ведаеш, у гэткім веку дзяўчаты такія дурненькія! Нас вабіць тады ўсё, што блішчыць, што харошае звонку. Але скора выявілася, што нашае жанімства ня можа быць шчасьлівым. Я змалку выхавана ў нацыянальным духу, бацька мой сядзеў у царскіх вастрогах за украінскую падпольную працу, я любіла свой народ, мову, звычаі... А ён быў маскаль і сьмяяўся з таго, што для мяне было найдаражэйшым. Апрача таго, ен любіў шырокае жыцьцё, піў, гуляў у карты. Але я ўсе-ж такі нейкі час яшчэ любіла яго, думала, што ўплыву на яго...

Пасьля прыйшла рэвалюцыя. Грошай з Пецербургу ня было. У мае маці быў у сьцяпу невялічкі дворык і мы далей тым жылі ў Елісаветградзе, што яна нам прысылала.

Калі захапіў уладу Скарападзкі, дык ён пайшоў на службу ў карны аддзел, што складаўся з маскалёў-афіцароў ды зьдзекаваўся з сялян за зьнішчаныя ў часе рэвалюцыі панскія двары. У часы дырэкторыі і першага прыходу на Украіну бальшавікоў, — ён пераховўваўся ў нас у сяле. Калі прыйшлі дэнікінцы — пайшоў служыць да іх у контр-разьведку. Калі-ж бальшавікі выганялі дэнікінцаў – застаўся на Украіне і пайшоў на службу ў Чэка. Хутка высунуўся там на высокае становішча і заслужыў поўны давер. Так што калі выявілася, што ён служыў у Дэнікіна — яму гэта даравалі. Ен вёў справы і прымаў удзел ў расстрэлах людзей, за якіх я хварэла душою. Прыходзіў дамоў на раніцы, скідаў скрываўленую вопратку і цынічна расказваў мне пра сваю „работу". Я ўжо ненавідзела яго. Хацела пакінуць, але ён прыгразіў, што расстраляе тады і мяне, і маю маці. Іншы раз зьбіраліся ў нас яго таварышы-чэкісты, пілі, разрывалі мне душу сваімі размовамі. Неяк я крыху захварэла, але не надавала гэтаму ніякага значэньня. Праз нейкі час я зустрэлася з дзяўчынаю, якая служыла ў Чэка машыністкаю. Яна расказала мне пра агідныя падробнасьці з „работы" Чэка. Харошых жанчын і дзяўчат, перад тым, як іх расстрэльвалі, выкарыствалі старшыя чэкісты ў сваіх кабінэтах, абяцаючы ім за гэта жыцьцё. Месяцаў таму са два, расстралялі вельмі прыгожую маладую артыстку, што быццам служыла калісь у дэнікінскай контр-разьведцы. Перад смерцьцю яна пабывала ў кабінэце начальніка Чэка і ўсіх значнейшых чэкістаў. З часам начальнік Чэка заразіў гэтую дзяўчыну. Сказала мне таксама, што мой муж праз два вечары браў да сябе гэтую артыстку... Я ўжо ня помню, як я дайшла дамоў...

Горла яе ізноў здушылі спазмы. Па руцэ маёй пабеглі яе гарачыя сьлёзы. Пахіліўшыся, схавала твар на маіх грудзёх і дала ім волю.

— Юрачка... брацейка... пашкадуй сваю маленькую дурненькую сястронку...

Пякучая злосьць на таго, хто спраняверыў жыцьцё гэтае нязвычайнае дзяўчыны — да болю сьціснула мне грудзі. Ласкамі пачаў супакойваць яе. Праз нейкі час ізноў паклала галаву мне на калены.

— Я хацела тады пакончыць з сабою... А пасьля падумала: чаму я маю адбіраць жыцьцё сабе?! Лепш я адбяру жыцьцё яму, яго таварышом, а сваё аддам барацьбе...

Я дастала бутэлечку стрыхніны і аднаго разу, калі да нас прыйшлі п'янстваваць шэсьць яго прыяцялёў-чэкістаў, перад тым, як падаваць на стол, — насыпала ў кухні атруты ў страву ды ў бутэлькі з гарэлкаю.

(Канец будзе).

